

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 50 (685)** **22 СНЕЖНЯ 2004 г.**


# *З Калядамі, шаноўныя беларусы!*

## ЧАСОПІС "БЯРОЗКА" АДЗНАЧАЕ СВОЙ ЮБІЛЕЙ




У часопіса "Бярозка" сёлетні год юбілейны. Менавіта ў снежні месяцы яму спаўняецца 80 гадоў. Першы нумар гэтага беларускамоўнага выдання для падлеткаў пабачыў свет ў 1924 годзе. Ён называўся "Беларускі Піонэр". Такую назву прапанаваў Алесь Чарвякоў, што сведчыць пра ўвагу, якую ўдзялялі новаму дзіцячаму выданню на беларускай мове кіраўнікі рэспублікі. І гэты назоў, і нязвыклы для нас правапіс сведчыць пра сталы век выдання. У 1925 годзе, калі адзначаліся першыя ўгодкі, у часопісе быў змешчаны ўспамін Алеся Якімовіча, у якім ён прыгадвае, як усё пачыналася, як рыхтаваўся самы першы нумар: "Ні свайго пакою для рэдакцыі, ні свайго стала – нічога гэтага мы яшчэ не мелі. Таму мы і парашылі, што лепш арганізаваць на першых часох рэдакцыю на кватэры, дзе ніхто не будзе перашкаджаць у працы." У 1929 годзе з'явілася газета "Піянер Беларусі" і часопіс быў перайменаваны ў "Іскры Ільіча". Заснаваны як штомесячны, у 1927-1929 гг. ён выходзіў два разы на месяц. Падчас Вялікай Айчыннай вайны зусім не выдаваўся. З чэрвеня 1945 года быў аднойлены і названы "Бярозка". Першым рэдактарам быў Уладзімір Дубоўка. Затым часопіс рэдагавалі Алесь Якімовіч, Усевалад Краўчанка, Кастусь Кірэенка, Васіль Зуёнак, Анатоль Грачанікаў, Вячаслаў Адамчык, Уладзімір Ягоўдзік. У часопісе друкавалі і друкуюць свае творы вядомыя пісьменнікі, мастакі, кампазітары. З "Бярозкі" пачаўся творчы шлях многіх пісьменнікаў, у тым ліку Янкі Маўра і народнага паэта Ніла Гілевіча.

"Бярозка" – гэта своеасаблівы летапіс, у якім адлюстраваная гісторыя дзя-цінства многіх пакаленняў. Па яго старонках можна меркаваць пра час і пра сябе ў гэтым часе, пра тыя змены, якія адбываліся ў грамадстве і культурным жыцці краіны, як з пакалення ў пакаленне змяняўся сам падлетак. Каб трапіць у Краіну Дзяцінства сённяшніх дзяўчатак і хлапчоў, дастаткова разгарнуць часопіс, і ў ім, як у люстэрку, у словах, у тэкстах, у аздабленні можна пабачыць адбітак нашага часу: стан айчыннай літаратуры, культуры, навукі, мастацтва, а таксама даведацца, чым цікавяцца і як жывуць падлеткі сёння, па-знаёміцца з першымі крокамі маладых парасткаў "Бярозкі" у творчае жыццё.

Трэба сказаць, што цягам дзесяцігоддзяў часопіс быў занадта ідэалагізаваны. І толькі на пачатку 90-х "Бярозка" пазбавілася палітычных путаў. Нейкі час, калі галоўным рэдактарам часопіса быў вядомы празаік Вячаслаў Адамчык, выданне друкавалася тарашкевіцай. На жаль, да гэтага прагрэсіўнага кроку грамадства было не падрыхтаванае. Наркамаўка і тарашкевіца, натуральна, не маглі суіснаваць так, каб не замяніць адно аднаму. Не даспадобы прыйшліся парасткі дэмакратыі і ўладным структурам. З прычыны гэтага "Бярозка" ледзь не апынулася пад пагрозай закрыцця. Да таго ж у гэты час часопіс згубіў свайго сталага заснавальніка – камсамол, які і сам спыніў сваё існаванне. Выданне перажывае цяжкія часы. У сувязі з кепскім фінансаваннем перыядычнасць яго парушалася, выдаваліся здвоеныя нумары, часам на шэрай газетнай паперы. Але галоўнае палягала ў тым, што часопіс выстаяў, вытрымаў ўсе цяжкасці калектыў рэдакцыі, намаганнямі і сумленнай працай якога "Бярозка" была сапраўды патрыятычным нацыянальным выданнем.

Сёлетні юбілейны год пачынаўся зусім не святочна, калі не сказаць — амаль трагічна. 14 студзеня з'явіўся загад Міністэрства інфармацыі Беларусі "Аб ліквідацыі Установы "Рэдакцыя часопіса "Бярозка", у якім ў прыватнасці гаварылася:

*"У адпаведнасці з даручэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18.11. 2003 г. № 10/350 П4967 аб аптымізацыі друкаваных сродкаў масавай інфармацыі*

*Загадваю:*

*Ліквідаваць Установу "Рэдакцыя часопіса "Бярозка".*

Зразумела, што наша грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" не магло застацца абыякавым да такой "аптымізацыі" адзінага беларускамоўнага выдання для падлеткаў. На паседжанні сакратарыята была прынятая заява "Бярозка" ў небяспецы". Аднак працэс ліквідацыі, як кажуць, пайшоў. Ён працягваўся амаль увесь гэты юбілейны год. У выніку "Бярозка" страціла статус юрыдычнай асобы, былі звольненыя з працы ўсе супрацоўнікі. Першым вымушаны быў пакінуць калектыў галоўны рэдактар, вядомы дзіцячы пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік. Прычынай яго звальнення было сканчэнне тэрміну кантракту.

Гэтая непрыемная для ўсіх гісторыя з ліквідацыяй часопіса скончылася. І скончылася яна, дзякаваць Богу, не горшым чынам. "Бярозка" засталася, хоць і памяняўся яе статус і калектыў рэдакцыі. Яна не спыніла свайго існавання, не знікла з інфармацыйнай прасторы. Заснавальнікам выдання выступіла Міністэрства інфармацыі. Часопіс разам з газетай "Раніца" выходзіць пад крылом "Настаўніцкай газеты". Кіруе праектам улюбёная ў сваю справу Святлана Яскевіч, якая прызнаецца, што за кароткі час "паспела прыкіпець да "Бярозкі" душою". Абнадзейвае і тое, што часопіс мае наклад , якому можа пазайздросціць любое выданне. У яго каля сямі тысяч падпісчыкаў і малады калектыў, які добра ведае псіхалогію падлетка, яго інтарэсы і захапленні. І толькі час пакажа, што згубіў часопіс і што ён прыдбаў у выніку такой перабудовы.

*ІрМа.*

***Таварыства беларускай мовы шчыра віншуе калектыў рэдакцыі "Бярозка" з юбілеем, зычыць плёну ў працы, шчасця ў асабістым жыцці і спадзяецца, што лепшыя традыцыі, закладзеныя папярэднікамі, будуць мець шчаслівы працяг, а маладое пакаленне — добрага надзейнага сябра, да якога заўсёды можна звярнуцца як да крыніцы ведаў і да крыніцы сваіх творчых захапленняў.***




## Рэгіянальная газета № 500

17 снежня выйшаў 500-ты нумар "Рэгіянальнай газеты". Газета выдаецца з 1995 года ў Маладзечне і выдаецца на беларускай мове. Выходзячы накладам 8150 асобнікаў, "Рэгіянальная газета" яскрава дэманструе, што беларуская мова не з'яўляецца перашкодай для папулярнасці газеты.










**Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" віншуюць калектыў "Рэгіянальнай газеты" з юбілейным нумарам. Мы надзвычай высока цэнім вашую адданасць беларускай справе і зычым газеце поспехаў у данясенні да беларускіх чытачоў інфармацыі на беларускай мове.**

**На здымку:** 499-ты нумар "Рэгіянальнай газеты".

*Шаноўнаму Спадару Алегу Трусаву*
*Старшыні Таварыства беларускай мовы*
*імя Ф. Скарыны*

**Шаноўны Спадар Старшыня.**

У сувязі з Вашым пісьмом да мяне, у якім дзеянні органаў кантролю РП у адносінах да штотыднёвка "Ніва", праведзеныя ў адпаведнасці з законам, Вы прызнаяце праявай дыскрымінацыі і запалохвання беларускай меншасці ў Польшчы, я хацеў бы паведаміць Вам наступнае.

Улады Рэспублікі Польшча ніколі не праводзілі акцыі ні супраць штотыднёвіка "Ніва", ні супраць беларускай меншасці. Гэта супярэчыла б польскай Канстытуцыі. Вярхоўная кантрольная палата Рэспублікі Польшча праверыла дзейнасць штотыднёвіка "Ніва" ў другім квартале 2003 г. у рамках планавай праверкі пад назвай "Выкарыстанне дзяржаўных сродкаў у галіне культуры суб'ектамі, якія не ўваходзяць у сектар дзяржаўнага фінансавання". У гэтай сітуацыі варта падкрэсліць той факт, што праверка прайшла не толькі ў штотыднёвіку "Ніва" – усяго было праверана 135 розных суб'ектаў, у тым ліку:

- Міністэрства культуры РП;
- 11 маршальскіх упраўленняў на тэрыторыі ўсёй Польшчы;
- 18 гарадоў, якія маюць статус паветаў;
- 1 павятовае староства;
- 21 праўленне гмін;
- 14 фондаў;
- 30 асацыяцый;
- 3 таварыствы гандлёвага права.

Акрамя таго, рэгіянальнымі Рахунковымі палатамі былі правераны:

- 5 фондаў
- 22 вб'яднанні, якія выкарыстоўваюць у галіне культуры датацыі з бюджэтаў арганізацый тэрытарыяльнага самакіравання
- 10 арганізацый тэрытарыяльнага самакіравання.

Улічваючы аб'ём праверак і тое, што яны ахапілі вельмі розныя суб'екты, цяжка пагадзіцца з абвінавачаннем, што гэта былі дзеянні, наўмысна скіраваныя менавіта супраць штотыднёвіка "Ніва".

У выпадку штотыднёвіка "Ніва" Вярхоўная кантрольная палата выявіла, што Праграмная Рада гэтага часопіса дапусціла наступныя парушэнні закона:

1.Завысіла дадзеныя аб памерах рэалізаваных тыражоў і продажу, а таксама аб планаваных выдатках. Сумарныя выдаткі на рэалізацыю задач у 2001-2002 гг., пададзеныя штотыднёвікам (г. зн. 1.146,40 тыс. злотых), былі завышаны на суму 446,8 тыс. злотых (у доларавым эквіваленце – каля 120 тыс. долараў).

2. Не ў поўным аб'ёме выканала задачы, пастаўленыя ва ўмове, заключанай з Міністэрствам культуры, якая датычылася выдання ў 2001 годзе 52 нумароў штотыднёвіка тыражом 2200 экзэмпляраў, - сярэдні тыраж склаў 1520 нумароў штотыднёвіка тыражом 2200 экзэмпляраў, - сярэдні тыраж склаў 1520 экзэмпляраў.

3. Прадставіла неаб'ектыўныя звесткі ў спаваздачы Міністэрству культуры аб рэалізацыі ўмовы аб датацыях на выданне штотыднёвіка ў 2001 г., паведаміўшы, што сумарны тыраж склаў 104 тыс. экзэмпляраў, хаця фактычна ён быў ніжэйшы на 24.957 штук.

4. Не выдзеліла ў бухгалтарскай дакументацыі рахункі для ўліку і разліку датацый, атрыманых з Міністэрства культуры і Маршальскага ўпраўлення.

5. На бухгалтарскіх дакументах не змяшчаліся заўвагі аб крыніцы паходжання сродкаў, прызначаных на пакрыццё выдаткаў.

6. У Праграмнай Рады не было дакументацыі, у якой былі б апісаны прынятыя прынцыпы вядзення бухгалтарскага ўліку, а план рахункаў быў складзены толькі падчас праверкі ВКК, г. зн. 12 мая 2003 года.

7. Бухгалтарскія запісы немагчыма было адназначна суаднесці з дакументамі аб паходжанні сродкаў.

8. У бухгалтарскіх кнігах фінансавыя дакументы, аплачаныя па наяўным разліку, улічваліся пад датамі, якія не супадалі з датамі выплаты.

9. У 8 выпадках фінансавыя дакументы ў бухгалтарскіх кнігах былі ўлічаны ў наступным годзе пасля іх выдачы.

10. Бухгалтарскія кнігі вяліся па-за офісам Праграмнай Рады, а іх вядзенне было даручана фізічнай асобе, якая не мела права аказваць паслугі ў галіне вядзення бухгалтарскай дакументацыі.

11. Дзяржаўныя фінансавыя службы не былі праінфармаваны аб месцы вядзення бухгалтарскіх кніг.

12. Не складаліся фінансавыя справаздачныя дакументы, як, напрыклад, баланс, улік набыткаў і страт, а таксама дадатковыя звесткі.

13. Не праводзілася інвентарызацыя, у тым ліку зверка з партнёрамі сальдаў абавязацельстваў і запазычанасцяў.

Інфармацыя аб выніках праверкі з'яўляецца адкрытай і знаходзіцца на інтэрнет-старонцы ВКК – www.nik.gov.pl

Адначасова я хацеў бы паведаміць, што ў сувязі з вышэйзгаданымі фактамі польская пракуратура праводзіць расследаванне з мэтай высвятлення ўсіх абставін справы, аб выніках якога мы абавязкова праінфармуем усіх зацікаўленых.

Шаноўны Спадар Старшыня.

На падставе вышэйвыкладзенага я хацеў бы зазначыць, што сапраўдны аб'ём выяўленых у "Ніве" недакладнасцяў – гэта нешта большае, чым – як Вы акрэсліваеце гэта ў Вашым пісьме – "памылкі бухгалтара ў нейкіх дакументах". Пасольства Рэспублікі Польшча з павагай ставіцца да арганізацыі, якую Вы ўзначальваеце. Мы высока ацэньваем і падтрымліваем усе дзеянні Таварыства беларускай мовы, накіраваныя на нацыянальнае адраджэнне, развіццё беларускай мовы і культуры. Нам хацелася б, каб Таварыства падышло да гэтай справы аб'ектыўна і зычліва. Як Вы напэўна ведаеце, польскія ўлады выдзяляюць вялікія фінансавыя сродкі на развіццё беларускай меншасці. Аднак сродкі гэтыя павінны выдаткоўвацца ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам, якое з'яўляецца аднолькавым для ўсіх, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці. Адначасова я перакананы, што штотыднёвік "Ніва" – вядомы і шанаваны і ў Польшчы, і ў Беларусі – справіцца з бягучымі праблемамі і будзе развівацца далей. У гэтым зацікаўлены дэмакратычныя асяроддзі абедзвюх нашых дзяржаў.

*З павагай,*
*Тадэуш Паўляк - Пасол.*

# Пастанова Рады ТБМ ад 12 снежня 2004 г.

## Аб змяненні памеру штогадовых складак сяброў ТБМ

У сувязі з павелічэннем мінімальнага заробку перагледзець памер штогадовых складак сяброў ТБМ.

Вызначыць з 1 студзеня 2005 г. складкі ў памеры:
- для тых, хто працуе – 5.000 руб.,
- для пенсіянераў – 3.000 руб.,
- для беспрацоўных і студэнтаў – 2.000 руб.,
- для навучэнцаў школ, каледжаў, гімназій – 1.000 руб.,
- для грамадзянаў Расіі – 60 расійскіх руб.,
- для грамадзянаў іншых краін – 5 $.

Сяброўскія складкі можна пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015212330014 у МГД ААТ "Белінвестбанка" г. Менска, код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка "Беларусбанк" (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

# Пастанова Рады ТБМ ад 12 снежня 2004 г.

## Аб мэтазгоднасці існавання камісіяў ТБМ

Сакратарыят ТБМ, які адбыўся 7 снежня 2004 г., заслухаў справаздачы аб працы ў 2004 г. старшыняў арганізацыйнай, адукацыйнай, тапанімічнай, тэрміналагічнай камісіяў, а таксама камісіі па зрокавым і гукавым афармленні асяроддзя.

З усіх пералічаных камісіяў захавалі свой склад і плённа працуюць тэрміналагічная, якую узначальвае Язэп Стэпановіч, і камісія па сувязях з замежнымі краінамі, старшыня Сяргей Запрудскі. Астатнія старшыні канстатавалі, што не бачаць сэнсу ў існаванні камісіяў і якія амаль паўтары гады не вядуць ніякай працы. Фактычна сакратарыят выконвае, наколькі дазваляюць магчымасці, функцыі розных камісіяў.

**На гэтай падставе Рада пастанаўляе:**

1. Захаваць тэрміналагічную камісію і камісію па сувязях з замежнымі краінамі. Стварыць умовы для іх працы. Працягнуць паўнамоцтвы старшыняў камісій Язэпа Стэпановіча і Сяргея Запрудскага на 2005 г.

2. Часова прыпыніць дзейнасць наступных камісій: арганізацыйнай, адукацыйнай, тапанімічнай, а таксама камісіі па зрокавым і гукавым афармленні асяроддзя.

# ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

***Падрыхтавала Ірына Марачкіна***

*(Праця. Пач. у пап. нум.)*

**2001 год.**

**24 сакавіка.**

У Чырвоным касцёле, што ў сталіцы, адбылася ўрачыстасць з нагоды выхаду ў свет 500-га нумара газеты "Наша слова". У праграме — літаратурна-мастацкая кампазіцыя, выступленне гурту "Ліцьвіны" (мастацкі кіраўнік Уладзімір Берберdroid), ганараванне пераможцаў конкурсу "Ведай свой горад Менск", які быў арганізаваны Таварыствам беларускай мовы". Вядзенніца — Людміла Дзіцэвіч. Юбілейны нумар газеты выйшаў на 12 старонках.

**Сакавік.**

ТБМ выпусціла кішэнны каляндарык на 2001-2002 навучальны год да 125-х угодкаў Цёткі. Выкарыстана карціна Аляксея Марачкіна "Нас кавалі у пламенні...", словы з верша Цёткі: "Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова (дызайн Ігара Марачкіна).

**5 красавіка.**

Адбылася сёмая канферэнцыя Магілёўскай гарадской арганізацыі, на якой была задаволена просьба Яраслава Клімуця, які ўзначальваў арганізацыю 12 гадоў, аб адстаўцы. Старшынём абраны Сяргей Украінка.

Сакратарыят ТБМ прыняў зварот да журналістаў, настаўнікаў і бацькоў з нагоды правядзення прымусовых палітінфармацыяў у навучальных установах Беларусі.

**Красавік.**

Кіраўніцтва ТБМ звярнулася да ўсіх рэктараў дзяржаўных вышэйшых навучальных установаў Беларусі з запытам:

1. На якіх факультэтах і па якіх спецыяльнасцях будзе ажыццяўляцца набор у беларускамоўныя групы ў 2001-2002 навучальным годзе?

2. Ці плануецца павелічэнне колькасці беларускамоўных груп у бліжэйшыя 5 гадоў і па якіх спецыяльнасцях?

**5 траўня.**

У дольнай зале Чырвонага касцёла адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ і рабочай групы па выпрацоўцы "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі". Рада зацвердзіла праект "Дэкларацыі аб беларускай мове", які будзе вынесены на з'езд.

**20 траўня.**

У сталічным Доме літаратара адбыўся VII з'езд ТБМ. Удзельнічала 190 дэлегатаў ад 69 арганізацый. З'езд прыняў пастановы: "Аб сяброўстве ў Рэспубліканскай Радзе ТБМ", "Аб распрацоўцы і прыняцці Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі", Палажэнне аб рэвізійных камісіях ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", Дэкларацыю аб беларускай мове, Слова да беларускіх пісьменнікаў.

Старшынём абраны Алег Трусаў, намеснікамі – Людміла Дзіцэвіч (першы намеснік) і Алена Анісім, Сяргей Кручкоў. У склад Рады абраны 52 сябры.

На 20 траўня сабрана каля 50 тысяч подпісаў за стварэнне БНУ, акцыя працягваецца.

**31 траўня.**

На паседжанні сакратарыяту пастаўлена на ўлік суполка ТБМ у г. Таронта (Канада).

**Травень.**

Споўнілася 10 гадоў ад часу ўтварэння Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Віленскага краю ў Літве, якое ачольвае Юры Гіль.

*(Працяг у наст. нумары.)*

*Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму амбасадару*
*Рэспублікі Польшчы ў Беларусі Сп. Тадэвушу Паўляку*

**Паважаны спадар амбасадар!**

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" шчыра дзякуе Вам за ўвагу і грунтоўны адказ на наш зварот з нагоды сітуацыі, што склалася вакол тыднёвіка "Ніва". Мы абавязкова надрукуем яго на старонках нашай газеты.

Мы ўважліва сочым за публікацыямі ў беларускай прэсе па гэтым пытанні, слухаем перадачы радыё "Палонія" і "Голас свабоды", ведаем думку грамадскіх беларускіх арганізацый Літвы і Польшчы і таму звярнуліся да Вас, бо далейшае існаванне адзінай беларускамоўнай газеты ў Польшчы было сумніўным, няпэўным.

Адначасова з праблемамі вакол "Нівы", узніклі праблемы (хацелася б думаць, выпадкова) і з выкладаннем беларускай мовы ў школах Беласточчыны. Раптам з бацькоў запатрабавалі заявы аб тым, што яны згодныя, каб іхнія дзеці вывучалі родную мову як прадмет, бо усе астатнія дысцыпліны ўжо даўно (за некаторым выключэннем) выкладаюцца па-польску. Што гэта такое, мы добра ведаем па прыкладзе Беларусі.

Дарэчы, большасць заўваг па працы Праграмнай Рады "Ніва" тычыцца менавіта бухгалтарскіх памылак, да якіх сябры Рады не маюць непасрэднага дачынення, а факт прысвяення нейкіх грошай асабіста сябрамі Рады не выяўлена. Таму я цалкам падтрымліваю Вашую думку, шаноўны спадар амбасадар, што газета "Ніва" справіцца з бягучымі праблемамі і будзе развівацца далей.

Мы таксама спадзяемся, што 50000 грамадзян Польшчы, што ў адпаведнасці з апошнім перапісам насельніцтва запісаліся беларусамі, змогуць без усялякіх бюракратычных перашкодаў вывучаць сваю родную мову як у школе, так і ў іншых навучальных установах Польшчы, друкаваць, набываць і чытаць кнігі, газеты і часопісы, выдадзеныя па-беларуску.

**З павагай Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**
**Алег Трусаў**

Людміла Дзіцэвіч

# Ірландскі дзённік

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах)*

**16. 07. 04. Пятніца.**

Пераехала на новае месца. Прыняла мяне сям'я Дэві, сціплая і гасцінная, вельмі падобная на беларускую—сваёй клапатлівасцю, жаданнем накарміць, дагледзець. Сын Дорык прапанаваў мне паглядзець, як ірландцы капаюць торф. Яны самі нарыхтоўваюць такі неабходны прадукт, бо так танней. Усе былі ўпэўненыя, што я ўпершыню ўвогуле чую пра такое рэчыва. Як жа здзіўленыя былі яны, калі я расказала, што ў дзяцінстве дапамагала бацьку капаць торф, паведаміла, якія прылады выкарыстоўвалі беларусы для гэтага. Практычна, такія ж, як і ў Ірландыі.



*Шон Крэг з беларускімі дзяўчаткамі на вуліцы Кілбэгэна*

Лес для нарыхтовак торфу мала чым адрозніваўся ад нашага, толькі маштабы ў Ірландыі значна большыя. Дорык паказаў мне вялізныя азёры, якія ўтварыліся на месцы здабывання торфу. Пабачыла кучкі высахлага торфу—і перанеслася ў думках на радзіму, на Дзятлаўшчыну, у той лес погірскі, у Ройста, дзе гэтак жа з бацькам сушылі тарфяныя брыкецікі, возам везлі дадому і складалі пад паветкай. І пах той торф багуном, якога так шмат было ў тарфяным лесе. А вось у Ірландыі багуну няма. І вельмі моцна захацелася дадому. Да адлёту засталося два дні.

Вечарам была урачыстая сустрэча тых, хто ў Вестміце займаецца дабрачыннай дзейнасцю на карысць Беларусі. Кілмаклін—так называецца гэтая мясціна—сабраў мора народу з гарадоў і мястэчак Вестміта. Арганізатары наладзілі збор грошай у дапамогу беларускім дзеткам, зладавалі рок-канцэрт, канцэрт старажытнай ірландскай музыкі. Можна было пабачыць адноўленую хату, ператвораную ў музей. І ніхто не казаў ніякіх прамоў са сцэны. Толькі беларускія (дзяржаўныя, вядома) і ірландскія сцягі падкрэслівалі кірунак імпрэзы. Затое між сабой было столькі перамоў, столькі выпітага піва, біфу недасмажанага з крывёй на аматара, гэльскіх скокаў. Разышліся толькі пад раніцу, але ўсю дарогу спявалі. Тым і падобны ірландзец на беларуса—зробіць добрую справу, вып'е і гуляе да раніцы, а потым зноў на працу. Ірландцы адчувалі гонар за тое, што цяпер і яны могуць дапамагчы некаму.

**17. 07. 04. Субота.**

Сёння сабраліся ўсе бацькі, дзеці на развітальнае барбік'ю. Паслязаўтра ляцім у Беларусь. Гасцінная сям'я Эдзі і Эн Сэры паклікала ўсіх да свайго дома, на траву-мураву, дзе раскінуліся аж пяць надзіманых горак для дзіцячых скокаў. Во ўжо дзеці накачаліся! Я назірала за маімі выхаванцамі і дзіву давалаася. Гэта ж колькі трэба было назапасіць энергіі, каб на працягу чатырох-пяці гадзінаў бесперапынна скакаць на гэтай цудоўнай гумавай прыладзе. Пасля такіх практыкаванняў нават вечна ўзбуджаныя Саша і Максім пацішэлі і папрасілі есці. А страваў нагатавалі ім ірландскія матулі—вочы разбягаюцца. Мне здавалася, што есці гэта мы будзем тыдзень, але пасля скокаў дзеці ўмалацілі ўсё імгненна. І выпілі бочку напояў. Дарэчы, за мяжой—не толькі ў Ірландыі—вельмі шмат п'юць вады. Тры літры ў дзень лічыцца нормай.

Пасля абеду мы ладзілі невялікі канцэрт: спявалі, чыталі вершы, танчылі. Прыйшлося мне паказваць беларускія танцы, спяваць народныя песні. Дзеткі малайцы, памагалі мне. Відаць, у Станькаўскай школе добра наладжаныя заняткі па мастацкай самадзейнасці. Ірландцы спачатку саромеліся танчыць з намі, але потым разышліся. Заканчвалі канцэрт сумеснымі скокамі.

Гаспадары зладавалі канцэрт свой—мы пачулі цудоўныя спевы ў выкананні Джэймса.

А потым пачалося развітанне са слёзамі, пацалункамі, абяцаннямі пісаць і тэлефанаваць. Усе дружна раўлі, і ніхто ўжо не хацеў вяртацца дадому. Акрамя мяне.

**18. 07. 04. Нядзеля.**

Зноў пераехала на новае месца. Трапіла ў шыкоўную гасціннасць да Полы, скарбніка арганізацыі. Цэлы вечар я, Пола і трое яе цудных дзетак—Крыстафер, Соша і Фіона—поўзалі па падлозе і раскладвалі, а потым збіралі пакункі з падарункамі кожнаму. Я бачыла, як спрактыкавана рабіў гэта 15-гадовы Крыстафер, і разумела, што гэта ўжо вопыт. Хлопец выдаваў мне такія ідэі дапамогі беларускім дзецям, і я пашкадавала, што ён не наш прэзідэнт. Увогуле, сям'я займаецца суцэльна святой справай у бок Беларусі. Тут вырастаюць сапраўдныя валанцёры.

**19. 07. 04. Панядзелак.**

Сёння ляцім дадому. Усе сабраліся на кілбэгэнскай плошчы, каб пасадзіць дзетак у аўтобус і выцерці слязу. Нават падняўся і Шон Крэг. Вялікі Шон пару дзён назад зваліўся з прыступам радыкуліту, мужна спаў на падлозе і хутка акрыяў.

Дзяцей не пазнаць. Нагружаныя валізамі, апранутыя ў навенькае, з расслабленымі тварамі—яны дружна прасіліся застацца, ціснуліся да сваіх ірландскіх бацькоў.

Але дзіцячыя жаданні кароткія. Як толькі дзетвара трапіла ў самалёт, пачаліся размовы пра тое, што дома, гэта значыць у Станькаве, лепей. Я ніколі там не была, але маркую паехаць туды ў жніўні, калі група ірландскіх валанцёраў прыедзе, каб прадоўжыць рамонт школы.

Як толькі інтэрнатаўскія дзеці атрымалі магчымасць выйсці з назапашвальніка аэрапорта—разбегліся імкліва, толькі рукой памахалі. Кожны імкнуўся дадому, дзе б той дом ні быў. Дзеці з хатніх сем'яў адшукалі мяне ў натоўпе, знаёмілі з бацькамі, сарамліва развіталіся.

Станіслаў Суднік

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Камандаванне Беларускай вайсковай акругі ні ў якім разе не збіралася вырашаць праблемаў беларускіх афіцэраў на абшарах СНД. Да вышэйшы чыноў ЧБВА, наогул, з цяжкасцю дайходзіла, што яны аказаліся ва Ўзброеных сілах новай краіны. Мы ж з Казахстана не маглі паўплываць на падзеі ў Беларусі, і таму імкнуліся нешта зрабіць тут. Добра разумеючы, што сапраўднага беларускага войска не можа быць без беларускіх статутаў, мы вырашылі прыступіць да іх распрацоўкі. Мы не мелі базы для гэтай працы. Наогул, ніхто з нас ніколі беларускага статута не бачыў. Як жартаваў Стась Цвірка, беларусы мелі толькі дзве каманды: **"Мыйце рукі ды заходзьце ў хату"** і **"Налівай, бо не ядуць"**. Ад з'езду БЗВ, а можа і раней у дэмакратычных выданнях рознага кшталту пачалі цыркуляваць некаторыя словы з беларускага вайсковага лексікону. Ігар Супаненка недзе здабыў фрагмент шыхтовага статуту Беларускай Краёвай Абароны. Мы прыступілі да працы. У аснову канцэпцыі Шыхтовага статута Беларускага Войска былі пакладзены наступныя пасылкі:


Шыхтовы статут

*Тытульная старонка "Шыхтовага статута Беларускага Войска". Надпіс зверху "МА Рэспублікі Беларусь". Унізе напісана "Выдавецтва "РОКАШ", г. Прыазёрск, Казахстан, 1992 г."*

1. "Стоевой устав Вооружённых Сил СССР" быў дастаткова дасканалы і прывычны для афіцэраў.
2. Статут беларускіх частак 20-х гадоў у БССР нам не быў вядомы, але тэрміналогія падручнікаў па вайсковай справе на беларускай мове, якіх мы мелі каля дзесятка (я забраў гэтыя кніжкі са з'езду БЗВ, потым мы іх вярнулі), нас не задавальняла. У асноўным гэта былі дрэнныя калькі з расейскай мовы.
3. "Строевой устав Вооружённых Сил СССР" (раней "Строевой устав Красной Армии") і шыхтовы статут БКА былі спісаныя з шыхтовага статута Вермахта (Узброеныя Сілы Германіі).
4. Звычайны пераклад "Строевого устава Вооружённых Сил СССР" не падыходзіў з-за лігвістычных асаблівасцяў беларускай мовы. Любая шыхтовая каманда дзеліцца, як правіла, на дзве часткі: падрыхтоўчую і выканаўчую. Выканаўчай часткай каманды з'яўляецца, зноў як правіла, апошняе слова ці апошні склад каманды. Выканаўчая частка павінна быць кароткай і ў абсалютнай большасці выпадкаў на гэты склад (слова) прыпадае ці прымусова перанасіцца націск. Падрадковыя беларускія пераклады расейскіх камандаў не адпавядаюць гэтым патрабаванням.
5. У шыхтовым статуце **БКА** мы не бачылі грунтоўна прапрацаванай ідэалогіі.

У выніку за аснову была ўзятая ідэалогія "Строевого устава Вооружённых Сил СССР" і лінгвістычная сістэма статута БКА.

Статут рабіўся ў два этапы. Спачатку была створана сістэма шыхтовых камандаў, а пасля на яе аснове быў аформлены статут.

У студзені 1992 года былі надрукаваныя 20 асобнікаў "Шыхтовага статута Беларускага Войска". Пазней, недзе ў лютым, ці сакавіку 1992 года ў НДІ Войскаў СПА ў г. Цвер 10 статутаў былі пераплецены ў цвёрдую вокладку. У нас усё яшчэ не было сканера, і таму малюнкі на ўвесь наклад рабіліся ўручную. На сёння гэты статут выключная рэдкасць. Пакуль што ў беларускім войску ён не выкарыстоўваецца, але ў нашай гісторыі ён ёсць і чакае свайго часу.

Чаму мы пачалі працу менавіта над шыхтовым статутам. Па-першае, абсалютная большасць савецкіх афіцэраў, нават беларусаў па нацыянальнасці ўявіць сабе не магла, што нечым можна замяніць такія звыклыя: "Равняйсь! Смирно! Налево! Шагом марш!", а калі хто і ўяўляў, то далей "Раўняйся! Смірна! Налева! Шагам марш!" не ішлі. Была вострая неабходнасць паказаць, што беларуская мова дазваляе мець абсалютна незалежную ад расейскай сістэму каманд. Па-другое, шыхтовымі камандамі пранізаны наступныя два статуты: "Статут унутранай службы", "Статут залогавай і вартавой службы". (Пра "Карабельны статут" мы не дбалі.) Па-трэцяе, для напісання шыхтовага статута ў прынцыпе дастаткова было сістэмы шыхтовых каманд, якая ў нас была распрацавана. У той жа час для напісання "Статута унутранай службы", "Статута залогавай і вартавой службы" і "Дысцыплінарнага статута" неабходна было прапрацаваць усё поле беларускай вайсковай тэрміналогіі. Патрэбна было мець або тэрміналагічныя, або хаця б перакладныя слоўнікі. На той момант гаворка ішла перш за ўсё пра перакладныя расейска-беларускія слоўнікі, бо мы на 100 % былі перакананыя, што маладое беларускае войска са старым афіцэрскім складам далёка ад савецкіх статутаў не адыдзецца.

Мне часта задавалі пытанне: "А якое ты меў права ў адзіночку пісаць вайсковы статут?". Па-першае, не зусім у адзіночку. Нас была ладная грамада. Па-другое, я меў права не меншае, чым Ермаловіч, калі ён у адзіночку пісаў гісторыю Беларусі, прынамсі, я быў падпалкоўнік і слухач выпускнога курса Вайсковай каманднай акадэміі імя Маршала Савецкага Саюза Г. К. Жукава. Усе астатнія афіцэры, якія займаліся гэтай справай, таксама былі з вышэйшай адукацыяй. А цяпер пра гэтыя правы дык і зусім марна гаварыць. Так было.

У выніку шыхтовы статут на беларускай мове ёсць. Напрацоўкі ТБМ па астатніх статутах на сёння перададзены ў рэдакцыю "Нашага слова" для заканчэння і даводкі.

*(Працяг у наст. нумары.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/





Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 20. 12. 2004 г. Замова № 2380.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1340 руб., 3 мес.- 4020руб.
*Кошт у розніцу:* 290 руб. (у Менску - 310 руб.)